# Голас Радзімы

№ 37 (2179)
13 верасня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.









У гэтыя дні славянскі свет адзначае пяцісотгоддзе з дня нараджэння выдатнага сына беларускай зямлі Францыска Скарыны. Асабліва святочна было ў Мінску. 1 верасня ва ўсіх вучэбных установах рэспублікі першыя ўрокі былі прысвечаны нашаму слаўнаму земляку. Вялікае тэатралізаванае свята правялі ў парку імя Янкі Купалы мінскія студэнты. А ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна адкрылася кніжная выстаўка «Скарыніяна». Тут жыхары і г... сталіцы змаглі ўбачыць найкаштоўнейшыя рарытэты, выдадзеныя вялікім мысліцелем, гуманістам, асветнікам і першадрукаром.

Надзвычай цікавы і сам лёс мінскага збору кніг Скарыны. Усе набыты ў 1925 годзе. У час Вялікай Айчыннай вывезены нямецка-фашысцкімі акупантамі. На шчасце, у 1945 годзе адшуканы і вернуты ў бібліятэку. На ўрачыстыя мерапрыемствы ў Беларусь прыбылі госці з усяго свету. І сярод іх нашчадак Ф. Скарыны, пра якога пісалася ў «Голасе Радзімы», — прафесар, доктар медыцынскіх навук Стэнлі Скарына. Яны прынялі ўдзел у адкрыцці мемарыяльнай дошкі з барэльефам Ф. Скарыны на вуліцы, якая носіць яго імя, у юбілейнай сесіі АН БССР, у пасяджэнні арганізацыйнага камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Не пералічыць усіх мерапрыемстваў, што праводзяцца з нагоды такога юбілею. Эпіцэнтр свята з Мінска перамясціўся на радзіму Скарыны — у старажытны Полацк.

У наступным нумары чытайце матэрыял нашага карэспандэнта з урачыстасцяў у Полацку.

НА ЗДЫМКАХ: студэнцкае свята ў Купалаўскім парку; нашчадак вялікага Ф. Скарыны Стэнлі СКАРЫНА з Канады на прэс-канферэнцыі ў мінскім Доме літаратара; кніжная выстаўка «Скарыніяна» ў Дзяржбібліятэцы БССР імя У. І. Леніна.

Фота С. КРЫЦКАГА.



ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА

## ПАТРЭБНЫ РАШУЧЫЯ ДЗЕЯННІ

**«Крытычнае, выбухованебяспечнае становішча ў эканоміцы не можа быць далей цярпімым: узровень жыцця людзей імкліва падае, мільёны людзей ужо апынуліся на мяжы паўгалечы». Так гаворыцца ў звароце Беларускага рэспубліканскага Савета прафсаюзаў да Прэзідэнта СССР, Урада СССР, урадаў саюзных рэспублік, прафсаюзаў, усіх працоўных калектываў краіны.**

**Як сцвярджае Белсаўпроф, кожны трэці жыхар Беларусі на сучасны момант знаходзіцца каля рысы беднасці.**

**Белсаўпроф заклікае кожны працоўны калектыў поўнасцю выканаць у гэтым годзе ўзятыя на сябе абавязацельствы перад сумежнымі прадпрыемствамі, спажыўцамі і закласці тым самым аснову для стабілізацыі становішча пры пераходзе да рыначных адносін. Патрабуецца і максімальна паскорыць заключэнне дагавораў на пастаўку сыравіны, матэрыялаў, гатовай прадукцыі на 1991 год. Пакуль жа ў БССР іх заключана менш трэці.**

**Далейшае прамаруджванне, гаворыцца ў звароце, смерці падобнае, сітуацыя можа набыць некіруемы характар, непазбежны поўны развал спажывецкай сферы, скарачэнне рабочых месцаў, беспрацоўе, масавыя хваляванні. Нерашучасць, паўмеры, бескантрольнасць урадавых структур краіны толькі ўскладняюць становішча.**

**Давер'е да ўрада можна адрадзіць толькі канкрэтнымі і энергічнымі справамі. Пераходны перыяд да рынку патрабуе ўмацавання дысцыпліны працы, дысцыпліны выканання. Беларускія прафсаюзы чакаюць ад Прэзідэнта СССР узважаных і рашучых дзеянняў па выкананню Законаў і Указаў.**

УСЁ МОГУЦЬ УМЕЛЬЦЫ



**Аб'яднанне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва створана ў Бабруйску. Аснову рамонтна-будаўнічай брыгады склалі муляры і цесляры, сталяры і аддзелачнікі, майстры разьбы па дрэву і чаканкі па металу, мастакі-афарміцелі і іншыя спецыялісты—майстры на ўсе рукі. Члены гасразліковага аб'яднання ўжо ўзвялі дзіцячы казачны гарадок у калгасе імя Мічурына, закончылі ў раёне мастацкае афармленне трох Дамоў культуры і бібліятэк. Цяпер узяліся за рэканструкцыю аднаго з помнікаў архітэктуры Бабруйска — будынка раённай бібліятэкі, каб вярнуць былую прыгажосць гэтаму старадаўняму асабняку. НА ЗДЫМКУ: у майстэрні аб'яднання яго кіраўнік Віктар МАЛАЖАВЫ і мастак-кераміст Валерый СКАРАБАГАТАЎ.**

ІМЯ СКАРЫНЫ

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР

Уласны нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр з'явіцца нарэшце і ў Беларусі. Савет Міністраў рэспублікі прыняў прапановы Акадэміі навук і Міністэрства культуры БССР аб галоўных напрамках яго работы: вывучаць і шырока прапагандаваць беларускую культуру і гістарычную спадчыну беларускага народа.

Імя геніяльнага славянскага асветніка Францыска Скарыны, 500-годдзе якога ў гэтыя дні святкуе Беларусь, будзе насіць нацыянальны цэнтр. Часовы творчы калектыў пры аддзяленні грамадскіх навук АН БССР займецца распрацоўкай яго праграмы і структуры.

ТВОРЧЫЯ ПАЕЗДКІ

## «ВЯСЁЛКА» Ў ГРЭЦЫІ

З беларускімі народнымі танцамі пазнаёміць грэчаскіх гледачоў лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі народны ансамбль «Вясёлка» рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў.

Самадзейныя артысты выехалі ў курортны горад Порта Гідра, што каля Афін, на міжнароднае танцавальнае свята. Аснову праграмы выступленняў склалі харэаграфічныя мініяцюры, створаныя раней на беларускім нацыянальным матэрыяле кіраўнікамі калектыву—Віктарам і Дзінай Ямінскімі.

Гэтая паездка за мяжу ў біяграфіі «Вясёлкі» не першая. Танцоры паспелі пабываць у Польшчы, Нарвегіі, Англіі, Егіпце, Нікарагуа, ГДР. Добра ведаюць артыстаў і ў беларускіх вёсках і гарадах: кожны сезон яны даюць тут дзесяткі канцэртаў.

*«Мы не павінны слепа падпяваць прапагандыстам культуры паўночна-ўсходняй Беларусі, каб не станавіцца нам, жыхарам паўднёва-заходняй Беларусі, пад бела-чырвона-белы крывіцкі сцяг, які лідэры БНФ выдаюць за беларускі нацыянальны сцяг. Нам, жыхарам паўднёва-заходняй Беларусі, сорамна і ганебна лічыць бела-чырвона-белы крывіцкі сцяг сваім нацыянальным сцягам таму, што пад гэтым сцягам некалькі стагоддзяў назад полацкая дзяржава нападала на гарады і вёскі паўднёва-заходняй Беларусі і спальвала, і руйнавала іх. Бела-чырвона-белы сцяг, як бачым, быў сцягам ворагаў нашых продкаў... У нас, на Случчыне, спрадвеку быў свой сцяг залацістага колеру з вышытай на ім Слуцкай Пагоняй (не літоўскай, а Слуцкай Пагоняй). Лічу, што мы павінны заставацца вернымі нашаму залацістаму сцягу да таго часу, пакуль не будзе прызнаны беларускі нацыянальны бела-чырвона-блакітны сцяг, які быў прапанаваны на Усебеларускім Кангрэсе ў Мінску ў пачатку нашага стагоддзя.*

*Нашым беларускім дзяржаўным сцягам, як вядома, з'яўляецца чырвона-зялёны сцяг, а нацыянальным беларускім сцягам мы можам прызнаць толькі бела-чырвона-блакітны, а не бела-чырвона-белы».*

*(Р. РОДЧАНКА, член Рады рэспубліканскага таварыства краязнаўцаў).*

ЗАМЕЖНЫ РЫНАК

## ЧЫМ ГАНДЛЮЕМ

**Па аб'ёмах знешнеэканамічных паставак Беларусь займае трэцяе месца пасля РСФСР і Украіны. У першым паўгоддзі наш экспарт склаў 926 мільёнаў рублёў—гэта даволі сціплая лічба—каля 4 працэнтаў аб'ёму прамысловай вытворчасці.**

**За 6 месяцаў на экспарт адпраўлена 12,6 тысячы трактароў (21,4 працэнта ад выпушчанага), 2,6 тысячы грузавікоў (10,4 працэнта), 68,8 тысячы веласіпедаў (13,9 працэнта), 57,5 тысячы тэлевізараў (7,7 працэнта), 788,9 тысячы гадзіннікаў (10,3 працэнта), 216,3 тысячы халадзільнікаў (51 працэнт).**

**Скарыстаўшы права наладжваць прамыя сувязі, прадпрыемствы і арганізацыі рэспублікі экспартавалі прадукцыі на 14 мільёнаў рублёў і ў той жа час імпартавалі—на 16 мільёнаў. Таваразабменныя аперацыі склалі 87,6 працэнта ўзаемных паставак.**

**Галоўнымі гандлёвымі партнёрамі былі прадпрыемствы Польшчы, Югаславіі, Балгарыі, Італіі**

АКЦЫІ ГРАМАДСКАСЦІ

## «ЧАМУ ПРАБУКСОЎВАЕ ПЕРАБУДОВА?»

**Пад такой назвай адбыўся мітынг у Брэсце, у ім прыняло ўдзел тры з паловай тысячы чалавек, з якіх 26 выступілі.**

**Прысутныя канстатавалі крызісную палітычную і эканамічную сітуацыю ў горадзе, няздольнасць мясцовых улад абараніць інтарэсы насельніцтва. У прынятай рэзалюцыі яны запатрабавалі неадкладнага склікання сесіі Вярхоўнага Савета БССР для тэрміновага прыняцця законаў, якія маглі б юрыдычна забяспечыць ажыццяўленне дэкларацыі аб суверэнітэце рэспублікі і пераход на рыначныя адносіны. У парадак дня сесіі прапанавана таксама ўключыць і разгляд Закона аб уладзе, у якім прадугледжвалася б забарона на сумяшчэнне партыйных і дзяржаўных пасад, дэпалітызацыя органаў КДБ, МУС, суда, пракуратуры і сродкаў масавай інфармацыі. У рэзалюцыі ёсць пункт аб вывадзе партыйных структур за межы прадпрыемстваў і ўстаноў, аб неадкладнай рэгістрацыі ўсіх канстытуцыйных партый і грамадскіх рухаў рэспублікі.**

СТРАШНЫЯ ЛІЧБЫ

## АДНОСІНЫ ДА ПРАЦЫ ЗА МЯЖОЙ

Апошнім часам у Савецкім Саюзе ўсё больш і больш расце занепакоенасць з-за «ўцечкі мазгоў» у выніку няспыннай эміграцыі. Некаторыя аглядальнікі лічаць, што паток тых, хто выязджае з СССР за мяжу на пастаяннае і часовае жыхарства, можа дасягнуць у бліжэйшыя тры гады 30 мільёнаў. Паводле даных апытання, праведзенага Усесаюзным цэнтрам вывучэння грамадскай думкі, ужо цяпер колькасць грамадзян СССР, якія хацелі б паехаць з краіны толькі на заробкі, складае 8 мільёнаў, з якіх 2 мільёны знаходзяцца ў стане «непасрэднай гатоўнасці». Асноўная прычына мяркуемага ад'езду—добрыя заробкі і магчымасць рэалізаваць свае веды і здольнасці.

У пераважнай большасці жадаюць паехаць гараджане, у асноўным жыхары буйных гарадоў. Сярод іх больш за ўсё моладзі. Паводле даных Усесаюзнага цэнтра, «уцечка мазгоў» працягнецца і ў будучыні: больш палавіны выказаўшых жаданне працаваць за мяжой належаць да гуманітарнай і тэхнічнай інтэлігенцыі ці з'яўляюцца кваліфікаванымі рабочымі. Але ў той жа час 16 працэнтаў усіх жадаючых паехаць—людзі з незакончанай сярэдняй адукацыяй.

Пакуль у большасці апытаных намер выехаць з краіны на заробкі носіць абстрактны характар —амаль палавіна апытаных толькі абдумвае гэты крок, і толькі кожны дзесяты гатовы пакінуць цяперашняе месца работы ўжо ў бліжэйшы час.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

# РЭЛІГІЯ: МЕРКАВАННЕ ВАЕННЫХ

Як ацэньваюць у арміі і на флоце перамены, што адбываюцца ва ўзаемаадносінах дзяржавы і веруючых? Якія цяпер адносіны ваенных да рэлігіі і рэлігійнасці? Пошуку адказаў на гэтыя пытанні было прысвечана спецыяльнае сацыялагічнае даследаванне: праведзена ананімнае апытанне 350 афіцэраў Узброеных Сіл і войск Міністэрства ўнутраных спраў СССР.

Як паказвае даследаванне, абсалютная большасць апытаных афіцэраў—92,3 працэнта ўспрымаюць новыя адносіны дзяржавы і царквы як заканамерны працэс, звязаны з развіццём дэмакратычных, гуманістычных асноў сацыялізму, 76 працэнтаў прызнаюць прагрэсіўны ўклад веруючых і рэлігійных дзеячаў у развіццё нацыянальнай культуры, патрыятызму, духоўнасці і маралі грамадства. Пераасэнсоўваючы многія пытанні, звязаныя з роляй рэлігіі ў свеце, сцвярджэннем атмасферы цярпімасці да перакананняў веруючых, 73,1 працэнта апытаных лічаць, што царква можа дапамагчы перабудове, садзейнічаць маральнаму аздараўленню грамадства.

Чым можна растлумачыць такія ацэнкі ролі рэлігіі ў перабудове?

Па-першае, на наш погляд, уздзеяннем сродкаў масавай інфармацыі, развіццём дэмакратыі, плюралізму думак. У друку (у тым ліку і ваенным), па радыё, на тэлебачанні з рэлігійнымі дзеячамі вядуцца дыскусіі, дыялогі аб маральным аздараўленні грамадства. Многія журналісты, вучоныя гавораць аб неабходнасці рэлігійнага выхавання ў краіне. Гэта, зусім зразумела, не можа не адбіцца на поглядах афіцэраў.

63,5 працэнта апытаных станоўча ацэньваюць увагу сродкаў масавай інфармацыі да праблем адносін грамадства да рэлігіі, 44,2 працэнта адабраюць паказ пропаведзяў свяшчэннаслужыцеляў з тэлеэкрана, больш за 60 працэнтаў чыталі ці знаёміліся з Бібліяй ці Евангеллем, 79,8 працэнта хацелі б мець іх у асабістай бібліятэцы, 37,5 адзначылі, што чытаюць часопіс «Навука і рэлігія».

Па-другое. Высокая ацэнка ролі рэлігіі ў грамадстве, якую далі апытаныя афіцэры, тлумачыцца і тым, што ў пэўнай часткі людзей сёння актывізуецца так званая астаткавая культавая псіхалогія. Заяўляючы аб сваіх атэістычных поглядах, людзі спраўляюць рэлігійныя абрады—адзначаюць царкоўныя святы, хрысцяць дзяцей і г.д.

Гэтая з'ява знаходзіць сваё адлюстраванне і ў афіцэрскім асяроддзі. Як паказвае ананімнае апытанне, 60,6 працэнта афіцэраў хрысціліся ў дзяцінстве, а 35,6 працэнта афіцэраў хрысцілі сваіх дзяцей. Пры гэтым сярод камуністаў гэтая доля склала 32,1 працэнта, а сярод палітработнікаў ротнага звяна—14,8 працэнта.

Як паказвае аналіз адказаў, у кожнага трэцяга афіцэра сфарміравалася думка: ніхто не можа навязваць чалавеку перакананні, калі гутарка ідзе аб свабодзе сумлення.

29,8 працэнта апытаных афіцэраў адзначылі, што сустракалі ў сваёй службовай практыцы салдат, рэлігійныя перакананні якіх перашкаджалі ім выконваць воінскі абавязак. 51,9 працэнта афіцэраў лічаць, што мэтазгодна выкарыстаць веруючых салдат на службе, не звязанай са зброяй.

Аналіз публікацый ваеннай прэсы і адказаў афіцэраў паказвае, што, напрыклад, некаторыя паслядоўнікі пратэстантызму адмаўляюцца ад прыняцця ваеннай прысягі і патрабуюць альтэрнатыўнай службы. Большасць жа веруючых прымаюць прысягу і добрасумленна выконваюць свой воінскі абавязак (гэта сцвярджаюць больш за 80 працэнтаў апытаных афіцэраў і больш за 30 працэнтаў публікацый ваеннай прэсы). Аднак калі будзе ўведзена альтэрнатыўная служба, то выкарыстаць яе захочуць, магчыма, не толькі пратэстанты.

УРАДЖАЙ-90



**Парадавала ў гэтым годзе працаўнікоў льняное поле калгаса імя Калініна Пружанскага раёна. Паўночным шоўкам тут занята 170 гектараў. Больш палавіны ўжо ўбрана. 5,5 цэнтнера насення, 12 цэнтнераў ільновалакна павінна атрымацца з гектара. На ўборцы льну ў асноўным працуе тэхніка. Дапамагчы калгасу ў напружаныя дні ўзяліся і ветэраны гаспадаркі (на здымку).**

